# Веcткі й Паведамленьні

*інфармацыйны бюлетэнь Згуртаваньня "ПАГОНЯ"*

**Viestki j Paviedamlenni**

**Сусьветнае сеціва:** ***pahonia.com, e-krama.com***
**Электронны адрас:** ***viestki@mail.com***
***P. O. Box 572, New York, NY 10313***

**№ 11 (573)**
**Лістапад 2013 г.**


## Кангрэс дасьледчыкаў Беларусі ў Коўні

З 11-га па 13-е кастрычніка ў Коўні (Летува) прайшоў Кангрэс дасьледчыкаў Беларусі, што ўжо трэці раз гасьцінна прыймала гістарычная сталіца Летувы. Ідэя Кангрэсу паўстала падчас сустрэчы прадстаўнікоў беларускай і летувіскай акадэмічнай і экспэртнай супольнасьці, і тэхнічны бок Кангрэсу ўзяў на сябе Ўнівэрсытэт Вітаўта Вялікага (УВВ) у Коўні, а сярод арганізатараў і фундатараў Кангрэсу былі розныя недзяржаўныя арганізацыі, у тым ліку Інстытут Палітычная Сфэра, Лятучы Ўнівэрсытэт, Беларускі Калегіюм, часапісы "Архэ" і "Беларускі Агляд", Фонд Бёля, Нямецкі Фонд Маршала, а таксама Міністэрства замежных справаў Летувы.

Асноўнаю тэмаю сёлетняга Кангрэсу было супрацоўніцтва ў балта-скандынаўскім рэгіёне, але тэматыка 14-ці панэльных сэкцыяў выходзіла далёка за гэтую заяўленую тэму і ўяўляла сабою ўнівэрсальную карціну мінулага й сучаснага стану беларускага грамадзтва. Сэкцыі ўключалі ў сябе эканоміку, вядзеньне бізнэсу ў Беларусі, паліталёгію, сацыялёгію, публічную палітыку, гісторыю Вялікага Княства Літоўскага і Беларусі ў складзе Расейскай імпэрыі, аднаўленьне беларускай дзяржаўнасьці ў 20 ст., гарадзкая супольнасьць і гэбрайская грамада, рэлігійныя традыцыі, хрысьціянства на Полаччыне, дударская традыцыя, сучасная беларуская культура – літаратура, мастацтва, тэорыя і практыка біблійнага перакладу, гендарныя штудыі, псыхалёгія й псыхааналіз.

На адкрыцьці Кангрэсу выступілі старшыня аргкамітэту Андрэй Казакевіч з Інстытуту Палітычная Сфэра, мэр Коўні Андрыўс Купчынскас, амбасадар Летувы ў Беларуі Эвальд Ігнатавічус, прарэктар па навуцы Юозас Аўгуціс.

Затым прайшло пленарнае паседжаньнне, на якім выступілі з прэзэнтацыямі Эгідыюс Александравічус з УВВ ("Беларусы ў палітыцы сучаснай Летувы"), Маргарыта Бальмацэда з Сэтан-Гол і Гарвардзкага ўнівэрсытэтаў ("Аўтарытарная ўстойлівасьць, сацыяльны кантракт і энэргетычная сытуацыя ў Беларусі"), Мікола Іваноў з Апольскага ўнівэрсытэту ("Севярын Віславух: Пачатак польскага беларусазнаўства"), Стывэн Ўайт з Унівэрсытэту Глазга ("Беларусы ў прамежкавай сытуацыі") і Дэвід Фрык з Унівэрсытэту Каліфорніі ў Бэрклі ("Трываючы нестрывальнае: суіснаваньне ў Вільні 17-га ст."). У пленарным паседжаньні таксама браў удзел Ян Маліцкі, дырэктар Цэнтру Ўсходнеэўрапейскіх Штудыяў Варшаўскага ўнівэрсытэту.

Пасьля распачалася праца ў сэкцыях, і аўтар гэтых радкоў правёў час пераважна ў сэкцыі Біблійнага перакладу, зрэдку выбіраючыся на іншыя сэкцыі паслухаць цікавыя даклады, якіх, нажаль ці нашчасьце, было значна болей, чым магчыма наведаць адной асобе. Рацыяналь сэкцыі Біблійнага перакладу была збольшага сфармуляваная ў прэзэнтацыі доктара сакральнай тэалёгіі Эўрапейскага гуманітарнага ўнівэрсытэту Ірыны Дубянецкай у дакладзе "Новы пераклад Бібліі на беларускую мову як нацыянальны праект". Д-р І. Дубянецкая адзначыла, што мэтаю сэкцыі ёсьць спроба выпрацаваць канцэпцыю й прынцыпы перакладу Бібліі. Сёньня, нягледзячы на існаваньне трох поўных перакладаў Бібліі па-беларуску (Я. Станкевіча, В. Сёмухі, У. Чарняўскага), ніводзін з гэтых перакладаў ня быў зроблены непасрэдна з арыгінальных моваў Сьвятога пісьма, і яны не адпавядаць сучасным нормам Біблійнага перакладу, не прыймаюцца да царкоўна-літургічнага ўжытку ў асноўных хрысьціянскіх канфэсіях Беларусі.

Але нават ня гэта асноўная сутнасьць праблемы. Біблія і Эўропа заўсёды былі спалучаныя гістарычнымі й цывілізацыйнымі канцэптамі. Тэкст Бібліі быў фармулюючым тэкстам і сродкам кшталтаваньня шмат якіх народаў і нацыяў Эўропы. Прычым Бібліія адыграла ў Эўропе сваю вызначальную ролю не ў арыгінальнай сваёй форме, але ў форме перакладу, пачынаючы з Сэптуагінты, але асабліва з Вульгаты. З перакладамі Бібліі выразна зьвязанае станаўленьне пісьменства ў готаў, армянаў, грузінаў, славянаў. Пераклады псальмаў па-галяндзку паўплывалі на фармаваньне адпаведнай мовы на падставе ніжненямецкіх гаворак. А Біблія ў перакладзе Лютара выкшталцавала адзіную нямецкую літаратурную мову, і ў пэўным сэнсе вырабіла нямецкую нацыю. Падобнае адбылося зь перакладамі Вуйка на польскую мову, Караля Якуба на ангельскую і г. д. У такім жа сэньсе нацыятворчымі пачат-

***Заканчэньне на бач. 3***



*Удзельнікі Кангрэсу былыя супрацоўнікі Скарынаўскага цэнтру:* ***Віталь Зайка, Захар Шыбека, Ігар Бабкоў, Адам Мальдзіс, Сяргей Шупа****.*

# Кастрычніцкі сход Згуртаваньня “Пагоня”

У Доме Маракоў на Мангэтане 26 кастрычніка адбыўся чарговы кастрычніцкі сход Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня “Пагоня”. Напачатку сходу старшыня Віталь Зайка распавёў пра свой удзел у Кангрэсе Дасьледчыкаў Беларусі ў Коўні (Летува), што прайшоў 11-13 кастрычніка. Ён спыніўся на арганізацыі Кангрэсу, тэмах дакладаў і плянарных выступаў (падрабязьнейшая справаздача падаецца ў асобным артыкуле). Сп. Зайка таксама ўзгадаў свой досьвед знаёмства зь летувіскім нацыянальным рухам канца 1980-х – пачатку 1990-х гадоў, распавёў пра тое, як амаль на ягоных вачах адбывалася адраджэньне незалежнай Летувы. Таму сёньня крыху дзіўна часам чуць ад звычайных жыхароў Летувы, у тым ліку ад летувіскамоўных, пра “добрыя старыя часы” Савецкага Саюзу, што сёньня Летува “стогне пад Эўразьвязам”, і што каб правялі рэфэрэндум аб вяртаньні СССР, дык большасьць насельніцтва прагаласавала б “за”. Моладзь звычайна не падтрымлівае такіх паглядаў, ня памятаючы “старыя часы”, але вялікая колькасьць моладзі й людзей працаздольнага веку знаходзяцца на заробках у Заходняй Эўропе, і толькі зрэдку прыяжджаюць на бацькаўшчыну. Апытаньне, праведзенае часапісам “Вальстыбе” (Дзяржава), адносна “асобаў, што прынесьлі найбольшую шкоду летувіскай дзяржаве і летувіскаму народу” дало такія вынікі: Сталін – 55%, папярэдні прэм’ер А. Кубілюс – 21%, стваральнік адроджанай Летувы Вітаўт Лансбэргіс – 14%! На трэцім месцы сярод “благнюкоў” апынуўся змагар за незалежнасьць і асоба, што адрадзіла дзяржаву! Выглядае, што незадаволенасьць эканамічным станам краіны і недавер да ўраду сярод жыхароў Летувы дасягнулі пагражальнага ўзроўню. Хто ведае, як адрэагавалі б цяпер на пуцінскі заклік у “мытны саюз”, у ЭўраАзЭС расчараваныя летувіскія выбаршчыкі?

Затым перад прысутнымі выступіў адзін з найстарэйшых прадстаўнікоў беларускай грамады ў Амэрыцы, грамадзкі дзеяч у Заходняй Беларусі, былы актывіст шматлікіх арганізацыяў у ЗША, які ў ліпені адзначыў свае 98-я ўгодкі, сп. Антон Шукелойць. Ён прывітаў беларускую моладзь, коратка распавёў пра сябе і спыніўся на сваёй грамадзка-культурніцкай дзейнасьці. Ён таксама ўзгадаў уплывы беларускай культуры на культуру польскую і расейскую, што цягам стагодзьдзяў забыліся або былі прыхаваныя ад наступных пакаленьняў беларусаў. Сп. Шукелойць выказаў асаблівае задавальненьне ад таго, што бачыць тут, на сходзе “Пагоні”, так шмат маладых прыгожых твараў сваіх землякоў і выказаў спадзяваньне, што беларуская моладзь адродзіць вольную, незалежную Бацькаўшчыну.

З паведамленьнем аб сваім удзеле ў 6-м Зьезьдзе Беларусаў Сьвету ў Менску выступіў архіяпіскап Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай (Народнай) Царквы Юры (Рыжы). Ён сказаў, што яму нядаўна, у жніўні сёлета, споўнілася 80 гадоў, але яшчэ гатовы паслужыць беларускай справе. Уладыка Юры адзначыў, што прадстаўляў, як дэлегат, на Зьезьдзе Беларуска-Амэрыканскае Згуртаваньне “Пагоня”. Праца Зьезду праходзіла досыць плённа, абмяркоўваліся пытаньні падрыхтоўкі закону “Аб беларусах замежжа”, што даў бы пэўныя правы і голас замежным беларусам адносна сувязяў з Бацькаўшчынай, і рэзалюцыі “Беларуская мова, як фактар захаваньня нацыі”. Было шмат добрых выступаў. Але калі прадстаўнік беларусаў Масквы, з пралукашэнкаўскай расейскай структуры, падараваў Зьезду сьцяг зь двухгаловым арлом, рэакцыя прысутных была розная, каля 4/5 ухвалілі такі падарунак, і толькі пятая частка выступіла супраць, у тым ліку і сам Уладыка Юры. Назіраючы працу Зьезду, стварылася ўражаньне, што ўлады дазволілі правесьці яго, каб “прафільтраваць”, колькі прыкладна ёсьць сьведамых беларускіх сілаў у сьвеце, і потым паспрабаваць узяць пад свой кантроль. “Але я веру, што Гасподзь у вялікай ласцы Сваёй будзе так добры, што дасьць беларусам сьветлую будучыню ў сваёй краіне! І за гэта прэба маліцца, на гэта працаваць”.

Сп. Зайка ад імя сябраў арганізацыі павіншаваў “юбіляраў” А. Шукелойца і Ўладыку Юрыя, пажадаў моцнага здароўя і працягу працы на карысьць Бацькаўшчыны.

Госьць “Пагоні” сьвятар а. Леанід Акаловіч прывітаў прысутных і коратка распавёў пра свой Эўфрасінеўскі прыход у Менску і пра сваю сьвятарскую дзейнасьць у саборы БАПЦ у Брукліне. Ён таксама сказаў: “Хацеў бы нізка пакланіцца Ўладыку Юрыю за тое, што наставіў мяне на Божы шлях і зрабіў сьвятаром. Буду заўсёды ўдзячны яму за гэта”. А. Акаловіч далучыўся да віншаваньняў Уладыку Юрыю і сп. Шукелойцю.

Затым з чаркаю віна і пачастункамі прысутныя маглі асабіста падзякаваць юбілярамі, выпіць за іхняе здароўе, а таксама калегавацца зь землякамі.

**Віталь ЗАЙКА**



*Уладыка Юры распавядае ўдзельнікам сходу пра свой удзел у Зьезьдзе Беларусаў Сьвету.*

## Кангрэс дасьледчыкаў Беларусі

*Заканчэньне з бачыны 1*

камі зрабіліся для ўкраінцаў і беларусаў Вялікага Княства Літоўскага пераклады Францішка Скарыны, Зізанія і Сматрыцкага. Для Расеі нацыятворчым па сутнасьці момантам стаў выхад у 1876 г. Сінадальнага перакладу на сучасную расейскую мову.

У цяперашняй беларускай сытуацыі, ва ўмовах недафармаванай нацыянальнай сьведамасьці, выхад аўтарытэтнага навуковага перакладу Бібліі па-беларуску паспрыяў бы пераадоленьню незасвоенасьці тэксту мовай і трыдыцыяй і праз гэта ўзьняў бы статус мовы, даў бы аўтарытэтныя пункты суадносеньня для штодзённай сьведамасьці, паспрыяў бы далейшаму разьвіцьцю літаратурнай традыцыі й культуры наагул.

Натуральна, што ідэальным часам для перакладу Бібліі на беларускую быў бы нашаніўскі пэрыяд. І сапраўды, у мадэрны й найноўшы час, пачынаючы з ініцыятывы кс. Лісоўскага ў 1905 г., Беларусь пабачыла ці мала спробаў пачаць працу над Біблійнымі перакладамі. Выйшлі пераклады Новага Запавету Дзекуць-Малея і Луцкевіча (1931), Эвангельлі й апостальскія дзеі кс. В. Гадлеўскага (1938), Эвангельлі й Апостальскія дзеі кс. П. Татарыновіча (1954), пераклад Я. Станкевіча (1970-1973), Новы Запавет Беларускага Экзархату (1991-2010), Біблія ў перакладзе В. Сёмухі (2002), кс. У. Чарняўскага (1997-2012).

Удзельнікі сэкцыі прадставілі даклады, у якіх закраналі, між іншага, пытаньні параўнальнага аналізу перакладаў, уплыў Бібліі на мову, выпрацоўка альгарытмаў перакладу (на прыкладзе кнігі прарока Ёны), асаблівасьці перакладу Псальмаў 9-10, пераклад Саборных пасланьняў ды інш. Аднак падзеі 20 ст. нанесьлі вялізныя страты культуры і мове беларусаў, і Біблійны пераклад у нейкі спосаб змог бы дапамагчы новаму Адраджэньню.

Цікавымі былі для аўтара гэтых радкоў таксама сэкцыі па гісторыі Вялікага Княства Літоўскага і аспэктах яе вывучэньня, Беларусь у складзе Расейскай імпэрыі і тэма заходнерусізму, грамадзка-палітычная дзейнасьць беларусаў у міжваеннай Латвіі ды іншыя, усіх не пералічыць.

Такім чынам, Кангрэс у каторы раз зрабіўся сапраўдным форумам беларусаведы, непадцэнзурным абменам думкамі й ідэямі, што, нажаль, немагчыма ў сёнешняй Беларусі. Прысутныя маглі таксама завітаць на прэзэнтацыі шэрагу выданьняў: “Гісторыя памежжа: Развагі над мінулым Беларусі” японскага гісторыка Макоты Хаясакі; “Анталёгія літоўскай палітычнай думкі 19 – пачатку 20 ст.”, “Тэатр Беларускі 1920-1930. Адраджэньне і заняпад” А. Москвіна; адноўлены праект выданьня “Journal of Belarusian Studies”. Адбыліся таксама паказы некалькіх фільмаў, прайшлі круглыя сталы па філязофіі, эўразійскай інтэграцыі.

Безумоўна, найлепшым месцам для правядзеньня Кангрэсу была б Беларусь, аднак на гэта наўрад ці можна спадзявацца. Застаецца толькі падзякаваць усім арганізатарам, а таксама гасьціннай Коўні, гораду Вацлава Ластоўскага і К. Дуж-Душэўскага, гістарычнай сталіцы Летувы, за тое, што прыняла блізу 500 дасьледчыкаў Беларусі і забясьпечыла ўмовы для плённых дыскусіяў і інтэлектуальнага абмену.

Для аўтара гэтых радкоў Кангрэс таксама стаў нагодаю сустрэцца са шматлікімі сябрамі і знаёмымі, якія працуюць у галіне беларусаведы, і зь якімі ня бачыўся ўжо больш за 10 гадоў. Культурніцкія форумы такога кшталту заслугоўваюць таксама на падтрымку беларускай грамады на чужыне.

**Віталь ЗАЙКА**

# “Эпізоды” Яўхіма Кіпеля

*Кіпель, Яўхім. Эпізоды. Мінск: Лімарыус, 2013. - 388 с.: іл. - (Беларуская мемуарная бібліятэка).*

У менскай сэрыі “Беларуская мэмуарная бібліятэка” пабачыла сьвет новае “эміграцыйнае” выданьне – кніга ўспамінаў Яўхіма Кіпеля (1898–1969) “Эпізоды”.

Вядомы вайсковы й грамадзкі дзеяч, удзельнік працы Тэрмінальягічнай камісіі Інбелкульту ў 1920-х гг. Яўхім Кіпель бачыў працэс беларусізацыі “знутры”, быў знаёмы са знакавымі асобамі нацыянальнага жыцьця: Янкам Купалам, Якубам Коласам, Яўхімам Карскім, Уладзімерам Жылкам, Зьмітром Жылуновічам і шмат іншымі. Ва ўспамінах Яўхіма Кіпеля прадстаўленыя найбольш важныя палітычныя й культурныя моманты жыцьця савецкай Беларусі ў міжваенны пэрыяд, адлюстраваныя настроі, што панавалі ў нацыянальным асяродзьдзі, нарастаньне бальшавізацыі й ціску з боку партыйных структураў на розныя сфэры грамадзкага жыцьця.




У “Эпізодах” прадстаўленыя вядомыя й малавядомыя ўдзельнікі стварэньня нацыянальнай навукі й культуры, чые лёсы, як і лёс самога аўтара, цесна зьвязаныя з рэпрэсіямі 1930-х г.г. У сваіх успамінах Яўхім Кіпель вельмі яскрава распавядае пра арышты нацыянальных дзеячаў, высылкі й час, праведзены ў лягерох. Двойчы рэпрэсаваны цягам 1930-х г.г. аўтар выступае як сьведка дзейнасьці рэпрэсіўнай машыны, што зьнішчыла значную частку беларускай інтэлігенцыі. Дзякуючы самому Яўхіму Кіпелю й ягонай сям’і, захаваўся для нацыянальнай гісторыі й культуры напісаны ў высылцы “Тэстамэнт” Уладзімера Жылкі. Нягледзячы на сур’ёзную небясьпеку, гэты каштоўны дакумэнт ужо ў часе Другой сусьветнай вайны разам зь Яўхімам Кіпелем вярнуўся ў Беларусь і быў апублікаваны.

Жыцьцё ў акупаваным Менску, дзейнасьць нацыянальных структураў, у якіх удзельнічаў Яўхім Кіпель, Другі Ўсебеларускі Кангрэс і далейшы выезд зь Беларусі – усё гэта асобныя “эпізоды”, што складалі адметнае й поўнае выпрабаваньняў жыцьцё дзеяча й ягонай сям’і. Аўтар згадвае беларускія арганізацыі ў ваенным Бэрліне й паваеннай Нямеччыне, эміграцыю ў ЗША. Я. Кіпель быў актыўным удзельнікам Беларускай Цэнтральнай Рады, меў уласнае меркаваньне па розных грамадзка-палітычных праблемах, і гэта таксама знайшло адлюстраваньне ў тэксьце ўспамінаў, дзе нацыянальнае прадстаўлена значна больш, чым прыватнае, асабістае.

Упершыню “Эпізоды” пабачылі сьвет у Нью-Ёрку ў 1998 г. Новае мэтрапольнае выданьне значна дапрацаванае. Дадалася прадмова Вітаўта Кіпеля “Аб бацьку, што прыпамінаецца...”, пасьлямова Ціхана Чарнякевіча, прысьвечаная асобе аўтара й ягоным мэмуарам. Акрамя таго, да тэксту былі зробленыя грунтоўныя камэнтары, што дазваляюць чытачу лепш арыентавацца ў вялікай колькасьці згаданых у кнізе асобаў і падзеяў. Дапамогай зацікаўленым будзе й бібліяграфія Яўхіма Кіпеля.

Выданьне стала магчымым дзякуючы ініцыятыве й падтрымцы сям’і Кіпеляў. Зь яе дапамогаю таксама да тэксту дадаліся ўнікальныя сямейныя здымкі.

“Эпізоды” Яўхіма Кіпеля ўяўляюць невялікі адбітак складанай беларускай гісторыі 1920-х–1950-х г.г. Яны шмат дадаюць да разуменьня й працэсаў беларусізацыі і часу рэпрэсіяў, і надзеяў нацыянальных дзеячаў у часы Другой сусьветнай вайны, і ўяўленьняў эмігрантаў пра сваю важную місію на чужыне.

**Натальля ГАРДЗІЕНКА**

# “Галгатня пра ЗыШыА”

Перасяліўшыся зь вёсак у гарады, атрымаўшы вышэйшую адукацыю, прачытаўшы шмат цікавых і ня вельмі кніжак, чамусьці мы частка становімся нячулыя да такога панятку як народная мудрасьць. А шкада. Я вось нядаўна пераканаўся ў гэтым на ўласным досьведзе. Даўным-даўно, калі разам з бацькамі мы падаліся ў эміграцыю, па нашым раёне, а пазьней і мястэчку пайшла пагалоска, што Воранавы зьехалі ў Амэрыку. Пачуў я гэта аднойчы вярнуўшыся ў Беларусь на летнія вакацыі. Натуральна, што плётка падалася надзвычай недарэчнай. Я ж ведаў, што Воранавы ў ніякую Амэрыку ня зьехалі, а спакойна жывуць сабе пажываюць у заходняй частцы Польшчы. Пасьмяяўшыся таму глупству, я хутка пра яго і забыўся. І што вы думаеце? Пражыўшы ў Польшчы дзесяць гадоў, самастойна зьехаўшы на навучаньне ў Чэхію і правёўшы там амаль пяць гадоў жыцьця, я раптам апынуўся, дзе б вы падумалі?... Ага, у Амэрыцы. Адзіная недакладнасьць народнага прадказаньня была хіба ў тым, што зьехаць я павінен быў у Каліфорнію, а не ў Канзас. Памылка аднак зусім неістотная, бо, першае, што таксама на „К”, а другое, што ў Каліфорнію я таксама быў аднойчы забрыў...

Раён беларускага мястэчка, у якім нарадзілася плётка пра Амэрыку, па-мясцоваму завецца Тэхас. Ягоная афіцыйная назва Беразьвечча, калісьці асобнае мястэчка з найцудоўнейшым і велічным кляштарам, а сёньня частка Глыбокага, што ў Віленскім краі, або на Полаччыне, і ўжо зусім не на Віцебшчыне, як кажуць бывае неабазнаныя ў мясцовай геаграфіі менскія, ці яшчэ горш, маскоўскія візытатары.

Сваю мянушку Беразьвечча заўдзячвае Тэхасу з прычыны таго, што жыцьцё раёну круціцца вакол вялікай турмы суровага рэжыму, часткаю якой, дарэчы, стаўся і колішні кляштар. Думаю, што моцна не памылюся, калі скажу што ў турме працуе большая частка насельніцтва раёну, адсюль і Тэхас. Гэтая мянушка настолькі ўкаранілася ў сьвядомасьць мясцовых жыхароў, што віднее яна ня толькі на сьценах мясцовых дамоў, платоў і гаражных брамаў, але нават на аўтобусным прыпынку, праўда, не афіцыйна, а ў якасьці графіці, і нават на шыльдзе адной прыватнай крамы.

Зусім нядаўна я, дарэчы, упершыню дабраўся таксама і да амэрыканскага Тэхасу. Даніну павагі сваім землякам я вырашыў аддаць фатаздымкам карткі з назваю Беразьвечча, якую прымацаваў да каменнага знаку на мяжы Тэхасу і Аклягомы. Вось так Тэхас і Беразьвечча аб’ядналіся ў вечным партнэрстве, а ўсё гэта, ды і ня толькі гэта, вось ужо амаль дваццаць гадоў таму прадбачылі, ці то нейкім чынам запраграмавалі ў мой лёс, мае мудрыя аднараёнаўцы. Вось такая яна – сіла народнае мудрасьці.

***Віталь ВОРАНАЎ***




## Уплаты ў Згуртаваньне

Ñêëàäê³ é àõâÿðàâàííí³:

**З. Аўраменка ................ 50**
**Н. Залётнева ................ 50**
**Ю. Цяліца ................... 50**
**Усім шчыры дзякуй!**

**Уплаты ў аддзел шліце на адрас:**

*P. O. Box 572*
*New York, NY 10113*
**Чэкі выпісвайце на імя скарбніка Згуртаваньня**
*Viktar Yedzinovich.*

*Паважаныя **Кацярына Масяйчук, Вольга Міхайлава, Вольга Недагрэенка, Марыя Самусь,** калі ласка, паведаміце рэдакцыі вашыя дакладныя паштовыя адрасы.*

# Наступны сход

**Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня “ПАГОНЯ”** адбудзецца **ў суботу 9-га лістапада 2013 году** на Мангэтане.

Месца правядзеньня сходу:

***Seafarers and International House***
***123 East 15th Street***
***New York, NY 10003.***

*Даезд цягнікамі падземкі **L, N, Q, R, W, 4, 5, 6** да станцыі падземкі **Union Square**.*

*Будынак знаходзіцца адзін блёк на ўсход ад Union Square па 15-й вуліцы на скрыжаваньні з Irving Place.*

***Заля знаходзіцца на другім паверсе будынка.***

Пачатак: **а 6:00-й** гадзіне вечара.

## Ахвяравалі на выданьне бюлетэня *Весткі й Паведамленьні* :

**Арх. Юры .................... 30**
**З. Аўраменка ................ 30**
**Н. Залётнева ................ 30**
**Ю. Цяліца ................... 30**
**Шчыры дзякуй!**

*Падпісацца на бюлетэнь могуць усе зацікаўленыя даслаўшы аплату гадавой падпіскі (**$30**) на адрас:*
***VIESTKI***
***P. O. Box 3225***
***Farmingdale, NY 11735***

*Чэкі з адзнакаю **“Весткі”** выпісвайце на імя скарбніка Згуртаваньня “Пагоня” **Viktar Yedzinovich**.*

*Падпіску таксама можна аформіць, наведаўшы ў інтэрнэце старонку **www.e-krama.com***